*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 15 (602) 23 КРАСАВІКА 2003 г.

## З Вялікаднем вас, беларусы!



*Шаноўныя людзі Зямлі Беларускай, католікі, праваслаўныя, уніяты і ўсе хрысціяне!*

*Сакратарыят ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны" віншуе вас з най вялікшым хрысціянскім святам Вялікім Днём Уваскрэшання Хрыстова.*

Голасам магутным грымяць сёння звоны
Па блакітным небе ў бляску сонца кос,
Льюцца урачыста радасныя тоны,
Бо Хрыстос, наш Збаўца, ў трэці дзень ўваскрос.

*"На Вялікдзень", С. Новік - Пяюн.*

*Валянціна Аксак*

### Віно з Каліфорніі

Тваё віно з Каліфорніі
Разбруілася водарам клёну
Ў цягніку "Прага-Менск" –
Нібы лісцік з гарачага хлеба,
Пажагнаўшы,
Бабуля здымае.
Хоць даўно ўжо
Загублены клён
Праз суседскую сварку з-за бульбы,
Што пад ім не ўраджала,
Пашчапалі на трэскі й лапату,
На якой на кляновых лістах
На чарэнь важкі бохан саджалі,
Дый дзяжы шмат гадоў не відаць
У запечку спусцелым.
Але тое не існа
Ў цягніку "Прага-Менск".
Бо смакуе віно з Каліфорніі.
Яно расструменьвае пах
Маладзенькіх клянкоў,
Што чакаюць мяне ў Смалічах,
На самоце кідаючы лісце
Ганарлівым-півоням пад ногі,
Покуль еду да іх
Цягніком "Прага-Менск"
З нідкуль я.

*Матэрыял да юбілею Валянціны Аксак чытайце на ст. 3.*

### Віншуем з абаронай

Віншуем Юрася Бушлякова з паспяховай абаронай дысертацыі на тэму "Моватворчая практыка Янкі Станкевіча (з гісторыі нармалізацыі беларускай мовы)", якая адбылася ў Дзень Волі - 25.03.2003 г. Зычым моцнага здароўя і далейшых поспехаў на карысць Бацькаўшчыны і роднай мовы.

*Сябры і калегі з арганізацыі ТБМ Першамайскага раёна г. Менска.*

## 26 красавіка - угодкі Чарнобыльскай катастрофы



Чарнобыльская зона. З гэтай вёскі ў Хойніцкім раёне людзі даўно выселены. І толькі птушкі засталіся вернымі свайму жытлу.

**Фота з архіву БелТА.**

У сакавіку гэтага года споўнілася 20 гадоў з дня стварэння Дома музея народнага пісьменніка Беларусі Івана Мележа на яго радзіме ў вёсцы Глінішча Хойнікскага раёна, волей лёсу аказаўшагася таксама ў Чарнобыльскай зоне. За гэты час тут пабывала 19 тысяч наведвальнікаў. Паклоннікі самабытнага таленту Івана Мележа часта наведваюць музей і ў гэтыя дні.

**На здымку:** бюст Івана Мележа ля будынка Дома музея ў в. Глінішча.

**Фота Сяргея Халадзіліна, БелТА.**



## Лідская канферэнцыя ТБМ



15 красавіка ў Лідскім гарадскім доме культуры прайшла справаздачна-выбарчая канферэнцыя Лідскай арганізацыі ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны". Дэлегаты канферэнцыі прадстаўлялі 153 сяброў ТБМ з 18 зарэгістраваных і незарэгістраваных суполак.

Гасцямі канферэнцыі былі ветэраны аб'яднання, сябры Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ, шмат моладзі, у большасці навучэнцы Лідскага тэхнічнага каледжа.

Канферэнцыя заслухала справаздачны даклад старшыні Лідскай арганізацыі, справаздачны даклад Рэвізійнай камісіі.

На канферэнцыі быў абраны старшыня Лідскай арганізацыі ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны", Рада арганізацыі з пяці чалавек і Рэвізійная камісія з трох чалавек, вылучаны дэлегаты на з'езд ТБМ.

Старшынём Лідскай арганізацыі ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" на новы тэрмін абраны Лявон Анацка.

Акрамя афіцыйнай канферэнцыя мела і мастацкую частку. Яна ўя'ляла сабой спектакль Тэатра аднаго акцёра "Зніч" па творах Максіма Багдановіча "У краіне светлай..." у выкананні Вячаслава Статкевіча і Сяргея Сарокіна.

***Наш кар.***

***На здымку:** старшыня Лідскай арганізацыі Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Лявон Анацка.*





*Вал. Акудовіч*

# Адзінота ў ядвабнай сукні

Жанчына заўсёды жыве на хутары. Хай сабе яна там ніколі не была і нават не ведае, што гэта такое. Як толькі прамінае разбэрсанае адразу ва ўсе бакі юнацтва, і дзяўчо робіцца жанчынай (жонкай, маці), яна адразу перасяляецца на хутар. І нічога не меняе той факт, што яе схарон не ўскрай лесу і поля, а ў гарадскім гмаху. Хутар – гэта не форма і лад жыцця, а немагчымасць адэкватна жыць у свеце, які мужчыны стварылі ўпору сабе.

У гэтым сэнсе літаратурны свет не шмат розніцца ад рэальнага. Ён таксама адмераны мужчынамі пад уласную задачу. Па вялікім рахунку у гульні мужчынаў на літаратурным полі, для жанчынаў месца адно на трыбунах, – але неўпрыкмет яны пачалі з'яўляцца і на арэне. Дарэчы, мужчыны не лішне працівіліся назоле, бо ў жанчынаў усё роўна не было іншага выйсця, як гуляць па іхніх правілах, а значыць заўсёды прайграваць...

І дасюль жанчыны гуляюць і не на сваім полі, і не ў сваю гульню. З гэтага ў супольным літаратурным працэсе кожная з іх як бы сама па сабе. І хаця жанчынаў згадваюць ў агульных пераліках ці крытычных аглядах, гуртуць з усімі разам пад адну вокладку ў даведніках ды энцыклапедыях, але насамрэч яны застаюцца ўроссып і самі паміж сабой, і яшчэ далей – паміж астатніх.

Хутаранкі. Заўсёды сам-насам, у адзіноце.

Адзінота – імя і нашай гераіні, а Валянціна Аксак – гэта ўсяго яе псеўданім.

Толькі не зважайце мне, што паэт па азначэнні адзінотнік, тым болей, калі ён – жанчына. Я тут пра нешта зусім не тое, а менавіта пра адзіноту, якая не можа быць чымсьці яшчэ, акрамя як сабой. Бо сапраўдная адзінота гэта не тады, калі ты самотны сярод іншых, а калі нікога іншага няма і быць не можа.

Усе жанчыны – гэта *адна* жанчына. І ніколі іх болей не было, нікога – акрамя *першай*. З гэтай яе анталагічнай адзінкавасці, толькі жанчынай і прыадкрываецца быццё ў ягонай істоце... Дык вось, не спрэс, не заўсёды, але ёсць (ёсць!), што ў сваёй творчасці Валянціна Аксак апускаецца (правальваецца) глыбей за самую сябе – у тую анталагічную адзіноту, што суседзіць з быццём, як такім. Прынамсі, менавіта там я пачуваюся, калі патрапляю ў прастору вершаў кшталту "Троіца" ці "Прыступкі" (і да іх падобных), дзе адбываецца, дзеіцца нешта адразу большае за ўсю стракатую мільтугню, як паўсядзённых, так і гістарычных справаў.

"Не адгукайся душа па падзеі",— гэтыя словы, вымаўленыя паэткай трохі дзеля іншага кантэксту, здаецца, пасуюць і да нашай гаворкі. Падзейная фанабэрыстасць знадворкавага свету чужая таму быційнаму ладу, якому ўнутрана падпарадкаванае жыццё Адзіноты ў сваім засценку.

Ніякая рэвалюцыя, ніякая тэхнагенная катастрофа не змяняюць гэтак свет, як вясна (ці восень). У адначассе лагодна перайначыць увесь абшар ад краю да краю – вось цуд, якому няма роўных.



Валянціна Аксак – палонніца календара, дзе адно і месіцца не фантомная, а падставовая падзейнасць свету. (Усяго колькі назваў вершаў: "Юр'я", "Багач", "Каляднік". "Шчадрэц", "Бабіна лета", "Успенне". "Вербніца ў Васілеўцах" "Перад Вялікаднем"...). Калі ў вас будзе патрэба з ёю сустрэцца, шукайце яе не па адраснай кнізе, а па "святцах".

Колісь я публічна назваў паэзію Валянціны Аксак паганскай, абмінуўшы ўвагай безліч пазнакаў і атрыбутаў хрысціянскага падання, якімі шчодра абмаляваныя яе вершы. Паразумеемся, рэч зусім не ў тым, што веры паэткі не стае шчырасці (пра гэта няма пытання), а ў тым, што для яе паэзіі вызначальным момантам ёсць судакраненне з уласна быццём, якое і за тысячы гадоў да Хрыстова прышэсця жыццядайна акрэслівала прастору ўпарадкавання чалавека. І толькі потым, значна пазней, з'явіўся Хрыстос, як спосаб аптымізацыі жаху небыцця, які пакрысе апаноўваў паганскага чалавека (чаму гэты жах моцна не турбаваў яго раней – не тут гаворка).

У пэўным сэнсе паэзія Валянціны Аксак і ёсць гісторыяй паганскага чалавека, якому спакваля адкрылася ўся вусціш нябыту і які з гэтага навярнуўся ў ратаўнічую веру, але і свайго паганства не ўсхапіўся цурацца.

Зрэшты, праблемы веравызнання паэткі – гэта яе ўласныя праблемы. Нас жа цікавіць нешта зусім іншае, а менавіта скрыжаванне анталагічнага непакою і экзістэнцыйнай вярэды, дзе мы і знаходзім для сябе Адзіноту ў ядвабнай сукні. Пра першую (у абодвух сэнсах) ростань трохі ўжо казалася, цяпер пра другую (упоперак, але таксама ў абодвух сэнсах).

Ясная рэч, што жанчына – гэта яшчэ і жанчына. У сваёй закальцаванай адзіноце яна не толькі персаніфікуе быццё, але і жыве чалавекам сярод людзей. І *хутар* ад звабы "людзкасцю" жанчыну не ратуе (хіба адно манастыр). Ну дый дзякаваць Богу, бо каму ад ейнай "аскезы" радасць?

Але праблема спакусы "людзкасцю" паўстае куды больш складанай, калі йдзецца пра паэта. І якраз для паэзіі нашай гераіні (натуральна, у кагосьці яшчэ ўсё інача й) гэтая праблема ці не найбольш, даруйце за таўталогію, праблематычная.

Вышэй я казаў, што ў Валянціны Аксак ёсць рэдкі паэтычны дар правальвацца скрозь сябе (гэта значыць праз людзкае) ў гармонію і лад пракаветнага. Толькі яна гэтым дарам (ці ён ёю?) карыстаецца далёка не спрэс. І тады мы чытаем вершы жанчыны пра жанчыну з наканаваным наборам драмаў: каханне, здрада, сям'я, дзеці, муж, вандроўкі, сустрэчы, растанні...

Удакладнім, гаворка не вядзецца пра сюжэты і канфлікты, як такія (тут выбар хоць для каго і заўсёды стандартны), а пра тое, чым яны пакліканыя ў тэкст: звабай напісаць сябе і пра сябе ці моўчай быцця?..

— А ну вас,— злуецца паэтка,— устыла быць адбіткам чорт ведама якога там быцця-шмацця, хачу сама на сябе паглядзецца ў люстэрка паэзіі!

— І што ты там убачыш?— тады груба пытаюся я (сябрам так можна).

Глупства кажуць, калі кажуць, што няма жаночай і мужчынскай паэзіі, а ёсць толькі добрая і благая (ці нешта падобнае). На жаль і самыя дасціпныя з жанчынаў часам забываюцца, на якім полі яны гуляюць і па чыіх правілах, і пачынаюць думаць, што яны, гэтаксама як і мужчыны, уяўляюць з сябе экзістэнцыйную множнасць, а значыць падобна мужчынам могуць у адначассе быць і аб'ектам і суб'ектам літаратурнай гульні; іншымі словамі, пісаць сябе і пра сябе і з гэтага мець арыгінальны эстэтычны плён.

Паўтаруся: усе жанчыны – гэта *адна* жанчына, а значыць і ніякай экзістэнцыйнай множнасці. І, адпаведна, ніякай карысці (прынамсі, эўрыстычнай) з углядвання ў люстэрка на сцяне ці ў душы... З гэтага і наступная максіма: жанчына, не набліжайся залішне блізка да самой сябе – там нікога няма. І тады, каб не пералякацца глухой пустаты, давядзецца хуценька запаўняць сваю адсутнасць чымсьці ці кімсьці іншым.

Гэтак будзе, але потым, у хвіліну адхлання, не пазбегнуць верша:

***Прабіваюся па калдобінах***<br>
***разнабойнае рытмікі нечае,***<br>
***ніяк на сваю не патраплю.***<br>
***Няўжо так уборыста***<br>
***ўзараныя гоні***<br>
***тутэйшага красамоўства,***<br>
***што дзеля маёе разоры***<br>
***папару не ацалела.***

Тут усё праўда і ўсё няпраўда, Але каб доўга не разблытваць, дзе тое, а дзе гэтае, скажу папросту: не варта лезці на чужое поле, калі маеш сваё. (Хіба толькі каб паласавацца струкамі гароху ці назбіраць васількоў у гліняны збан на пісьмовым стале). А менавіта, не трэба ўцякаць ад наканавання анталагічнай Адзінотай, якая толькі і суседзіць з быццём і якую мужчыны ў сваёй экзістэнцыйнай множнасці могуць адно памысліць, але ніколі асягнуць. Усё менш сябе, усё больш быцця. Гэта цяжкі шлях, бо гэта шлях у страту. Але хто калі казаў, што жыць лёгка? Асабліва паэту! Тым болей, калі ён мае рэдкі дар вымыкаць з патаемнага ў непатаемнае шолахі тых сутваў, што нітуюць між сабой ўсё існае. Дарэчы, — і Адзіноту з ядвабам таксама.

**Валянціна Аксак.**
**Аўтар чатырох паэтычных зборнікаў: "Цвінтар", "Капліца", "Антычны дождж", "Віно з Каліфорніі".**

## *ВЕЛЬМІШАНОЎНАЯ СПАДАРЫНЯ ВАЛЯНЦІНА!*

***Таварыства беларускай мовы з вялікім задавальненнем віншуе Вас, паэтку, журналістку, грамадскую дзеячку з прыгожым "залатым" юбілеем.***

***Вашыя дакладна-кароткія рэпартажы на радыё Свабода уражваюць сваёй надзённасцю, логікай мыслення, глыбінёй думкі.***

***Ваш новы чарговы зборнік вершаў "Віно з Каліфорніі" - цудоўны падарунак прыхільнікам Вашага таленту. Няхай Ваш адметны паэтычны радок натхняе маладых творцаў на стварэнне простых у сваёй геніяльнасці вершаў.***

***Дай, Божа, каб і надалей Вы радавалі аматараў паэзіі сваімі новымі кнігамі.***

***Творчага Вам натхнення, невычэрпнай жыццёвай энергіі ды фізічных сілаў у працы на карысць роднай Бацькаўшчыны.***

***Таварыства беларускай мовы ганарыцца, што ў яго шэрагах ёсць Вы, спадарыня Валянціна.***

***Хай шанцуе Вам ва ўсіх задумках, справах.***

***Старшыня ТБМ Алег Трусаў.***

# "Сем цудаў Беларусі"

## Першыя вынікі

***Выказваем падзяку рэспандэнтам, якія прыслалі свае адказы на даследаванне "Сем цудаў Беларусі". Мы прадаўжаем чакаць вашыя лісты з поглядам на праблему. Таксама нагадаем, што гэтаму пытанню прысвечаны ўжо тры аднайменныя кнігі Уладзіміра Ягоўдзіка і Анатоля Бутэвіча.***

***Алеся Лозка,студэнтка БДПУ***
***(220051 г.Мінск, вул. Громава, 38-21. Тэл. 274-04-72)***

***Адам Мальдзіс,***
***прафесар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Коласа, заслужаны дзеяч польскай культуры, прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусітаў***

1. Асоба Францішка Скарыны, русіна-ліцьвіна і еўрапейца, ягоныя кнігі.
2. Феномен Максіма Багдановіча: узрасці далёка ад радзімы і тым не менш стаць адным з найпершых яе паэтаў.
3. Творчасць Уладзіміра Караткевіча, які намнога апярэджваў свой час, прадбачыў сённяшняе, даў нам нацыянальную ідэю.
4. Справа святой Ефрасінні Полацкай – моц яе духу.
5. Вільня як супольны асяродак некалькіх (у тым ліку беларускай) культур.
6. Слуцкія паясы, што звязваюць Усход і Захад.
7. Фарны касцёл у Нясвіжы – другі шэдэўр барока ў Еўропе.

***Аляксей Ненадавец,***
***доктар філілагічных навук, міфолаг, фальклярыст (Бабруйск)***

1. Давыд Гарадзенскі, Юры Радзівіл, Кастусь Астрожскі – славутыя беларускія ваяры.
2. Дэманалогія беларусаў – адна з самых багатых у свеце.
3. Спораўскія балоты – унікальны запаведнік у цэнтры Еўропы.
4. Легенды і паданні роднага краю.
5. Манументальнае дойлідства беларусаў.
6. Спрадвечная самабытная вера нашых продкаў.
7. Выхадцы беларускай зямлі, якія праславілі сваю старонку па ўсім свеце.

***Анатоль Мяльгуй,***
***журналіст***

1. Абраз Жыровіцкай Божай Маці.
2. Творчая спадчына Францішка Скарыны.
3. Гістарычныя сімвалы Беларусі: бел-чырвона-белы сцяг, герб "Пагоня".
4. Белавежская пушча.
5. Мірскі замак
6. Нясвіжскі палац
7. Творчасць ансамбля "Песняры"( першапачатковы перыяд).

Пасля рэканструкцыі і капітальнага рамонту па-новаму выглядае дзіцячае аддзяленне Берасцейскай абласной бібліятэкі імя М. Горкага, зараз у бібліятэцы 9 тысяч чытачоў. Яе фонды налічваюць 125 тысяч кніг і больш 120 розных перыядычных выданняў.

**На здымку:** у адной з залаў бібліятэкар Таццяна Ландычанка (злева) дапамагае падабраць літаратуру чытачам.

**Фота Рамана Кабяка, БелТА.**

# У гасцях у маэстра

Першым лютаўскім ранкам сябры культурна-асветніцкага клуба "Спадчына" (разам са мной – Алесь Цыркуноў, Анатоль Валахановіч, Мікола Лавіцкі) наведаліся ў майстэрню народнага мастака Беларусі Леаніда Шчамялёва. Гаспадар майстэрні рыхтаваўся да сваёй юбілейнай выставы, і мноства палотнаў былі ўжо адпраўлены ў Палац мастацтваў, але ў прасторным, светлым памяшканні на вуліцы Сурганава нас акружылі сотні пейзажаў, нацюрмортаў, партрэтаў – мы апынуліся ў свеце мастацтва. Сам мастак, які велікадушна дазволіў нам у гэты дзень зазірнуць у святая-святых, сваю творчую лабараторыю, на дзіва малады і энергічны для свайго ўзросту (ніколі і не паверыш, што ўжо такая дата надышла: 80 гадоў!), патлумачыў, што амаль усе гэтыя карціны, якія засталіся ў майстэрні, бадай ніколі і не выстаўляліся, што іх прызначэнне – падтрымліваць творчы настрой, задаваць імпульсы для новых задум, натхняць на стварэнне новых карцін. І цяпер яны сваёй маўклівай і адначасова красамоўнай прысутнасцю аздаблялі нашу доўгую размову пра жыццё і мастацтва, гісторыю і сучаснасць, жыццёвыя выпрабаванні і творчыя здабыткі, пра людзей, з якімі здволзіў лёс, і шмат, шмат пра што яшчэ.

Горадам дзяцінства Леаніда Шчамялёва быў Віцебск 20-х–30-х гадоў. Успаміны мастака ўваскрасілі тагачасную атмасферу гэтага незвычайнага горада з яго выбітнай архітэктурай і паўсюднай прысутнасцю мастацтва. Бацькі будучага мастака былі простыя людзі (бацька - рабочы, токар, маці – швачка), а жыла сям'я ў прыгожым месцы, недалёка ад Дзвіны і цудоўнага касцёла св. Барбары. І над усімі пабудовамі ўзвышаліся купалы Успенскага сабора, якія запальваліся дзівосным ззяннем у час заходу сонца. Вечарамі ў парках над Дзвіной гучала музыка.

Першыя ўражанні ад выяўленчага мастацтва былі даволі багатыя і разнастайныя. На рынках прадаваліся тады танныя маляваныя дываны, якія адыгрывалі ролю замены больш дарагога прафесійнага мастацтва і карысталіся на той час вялікім попытам. Але сярод мастакоў-рамеснікаў, якія іх выраблялі, сустракаліся таленавітыя прафесіяналы, стваральнікі сапраўдных мастацкіх каштоўнасцяў у гэтым жанры. Вось яны і былі адным з найбольш яскравых дзіцячых уражанняў мастака. Да таго ж, у Віцебску тады існавала шмат клубаў, у якіх працавалі мастацкія гурткі ды выставачныя залы, дзе можна было ўбачыць карціны мясцовых і заезджых мастакоў, такіх, напрыклад, як Кузняцоў, Рылоў. Сярод беларусаў ужо тады запомніліся Пашкевіч, Волкаў, Кавалёў, Ахрэмчык. У той час у Віцебску працавалі такія знакамітасці, як Пэн, Дабужынскі, тут былі жывыя традыцыі, закладзеныя вялікімі Шагалам і Малевічам, стваральнікамі Народнай мастацкай школы. Надзвычайнай папулярнасцю і павагай карыстаўся ў той час у Віцебску тэатр, прыцягвалі публіку кінатэатры, дзе ішлі нямыя фільмы пад гукі фартэпіяннай музыкі. Адным словам, тагачасны Віцебск быў насычаны культурнымі падзеямі і з'явамі, жывая практыка знаёмства з якімі пакідала незабыўныя ўражанні і рабіла моцны ўплыў на фармаванне асобы будучага мастака.

Напачатку вайны сям'я Шчамялёвых эвакуявалася ў Расію, спачатку ў Маскву, пасля ў Іванава і нарэшце ў горад Сямёнаў Горкаўскай вобласці. На фронт Леанід трапіў у 1943 годзе, спачатку ў пяхотную чяастку, а пасля ранення і лячэння ў шпіталі – у кавалерыю, з якой і прайшоў усю вайну да канца.

А пасля вайны прыехаў у родны Віцебск – і не пазнаў яго. Стаяў на Успенскай гары, адкуль адкрываецца панарама горада, а навокал – пустка, ад краю да краю. І насельніцтва ў выніку ваеннага перасялення змянілася: прыехалі людзі адусюль, шмат з Расіі. Той былой інтэлігентнасці, здаецца, амаль і не засталося. Так развітаўся Леанід Шчамялёў з горадам свайго дзяцінства, звязаўшы далейшы свой лёс са сталіцай Беларусі, бо паступіў у Менскую мастацкую вучэльню.

Вучыцца тут было вельмі складана, улічваючы цяжкае матэрыяльнае становішча пасляваенных гадоў. Шмат навучэнцаў адсеялася, утрымаліся самыя моцныя. Але падрыхтоўка была вельмі добрая, бо працавалі ў вучэльні ў той час выдатныя педагогі і мастакі, такія, як Касмачоў, Цвірка, Лейтман, Мазалёў. Дырэктарам вучэльні быў Іван Рыгоравіч Краснеўскі. Не будучы сам мастаком, ён усю душу аддаваў навучэнцам, удзяляў ім вельмі шмат сваёй увагі, клопату, аказваў падтрымку, дапамогу, часта нават грашовую, асабліва бяднейшым, тым, хто прыйшоў з вёскі ці адразу з фронту. Гэта быў чалавек выключны па сваіх душэўных якасцях, да таго ж добры адміністратар. Многім толькі дзякуючы яго апякаванню ўдалося падняцца, атрымаць адукацыю. "Калі б па-справядлівасці, - кажа Леанід Дзмітрыевіч, - я лічу, што нашай мастацкай вучэльні трэба было б прысвоіць імя яе тагачаснага дырэктара Краснеўскага і тым ушанаваць яго светлую памяць".

Закончыўшы вучэльню ў 1952 годзе, Леанід Шчамялёў паступае ў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, што на той час таксама было нялёгкай справай. Выглядае неверагодным, але конкурс у той год быў недзе 60 чалавек на месца, бо прыязджалі паступаць сюды літаральна з усяго Савецкага Саюза, і ўсіх Беларусь прымала. Але трэба аддаць належнае выкладчыкам, якія зрабілі добры адбор, і найбольш здольныя выпускнікі Менскай мастацкай вучэльні былі прынятыя ў інстытут. Многія з іх у далейшым сталі гонарам беларускага выяўленчага мастацтва.

Інстытут даў мастаку добрую прафесійную падрыхтоўку, ён з удзячнасцю ўспамінае такіх выкладчыкаў, як Мазалёў, Цвірка, Волкаў, якія зрабілі шмат для таго, каб іх вучні сталі сапраўднымі прафесіяналамі. У час вучобы ў інстытуце ён навучыўся цаніць прыгажосць роднай Беларусі. Віталь Канстанцінавіч Цвірка - адзін з тых, хто даў уяўленне, як бачыць і адчуваць Беларусь праз колер, пластыку, хто перадаў вучням сваё захапленне беларускім пейзажам, адчуванне прыгажосці такіх мясцін, як Браслаўшчына, Ракаўшчына, Валожыншчына, Івянец. Ён сам шмат ездзіў па Беларусі і вазіў з сабой сваіх вучняў. Без гэтага можна было колькі здаўгодна вучыцца ў Менску і не ўяўляць сабе ўсёй непаўторнай прыгажосці многіх беларускіх мясцін.

Вучыўся Шчамялёў у інстытуце з поспехам і захапленнем, 6 гадоў вучобы праляцелі непрыкметна, нібы ў сне. Надышоў час абараняць дыплом. Сюжэт для сваёй дыпломнай працы "Вяселле" аўтар узяў з народнага жыцця. У аснову сюжэта пакладзены народны звычай перакрываць дарогу вясельнаму поезду, каб запатрабаваць з маладых выкуп. Гэты самы момант паказаны на карціне – шматфігурнай кампазіцыі, дзе ўсё ў руху, у дынаміцы; белы снег, раптоўна спыненыя коні, маляўнічая святочная вопратка на персанажах... Карціна ўсім падабалася, але камісія яе ледзь не зарэзала, на закрытым паседжанні вынесла адмоўную ацэнку. Гэтае непрыняцце сталася вялікай нечаканасцю, сапраўдным шокам для аўтара. І невядома нават, каму наносіўся ўдар: самому вучню ці яго выкладчыку, які, магчыма, не ўпісваўся ў нейкія каноны, не адпавядаў нечым устаноўкам. Такая сітуацыя паўтаралася і пазней, калі мастак выстаўляў свае карціны на суд гледача: выказвалася неаднойчы асуджэнне, абсурдныя, неабаснаваныя прыдзіркі ды заўвагі, і ўсё гэта, што так псавала кроў творчаму чалавеку, мела сваёй прычынай, па словах Шчамялёва, нават не палітычныя нейкія матывы, а проста непрыняцце пэўныымі ўладнымі коламі ўжо самой свабоднай, самастойнай думкі, незалежнага развіцця.

У 1959 годзе інстытут быў скончаны, мастака прынялі на працу ў Менскую мастацкую вучэльню. Гады працы тут ён успамінае з задавальненнем: таленавітыя вучні, вандроўкі па Беларусі, найчасцей па мясцінах, наведаных і ўпадабаных яшчэ ў часы вучобы разам з настаўнікам Віталем Цвіркам.

За многія гады творчай працы мастак напрацаваў багаты творчы плён у розных жанрах станковага жывапісу. Ён з'яўляецца ўдзельнікам шматлікіх выставаў, пачынаючы з 1958 года – у Беларусі і за межамі краіны Яго творы зберагаюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусі, у Траццякоўскай галярэі ў Маскве, у грамадскіх і прыватных зборах Беларусі, Расіі, Літвы, Польшчы, Венгрыі, Германіі, Францыі, Італіі, Фінляндыі, ЗША, Ізраіля, Аўстраліі, Грэцыі. Дарэчы, больш за дзесятак сваіх палотнаў Шчамялёў ахвяраваў для Музея беларускага мастацтва ў Старых Дарогах, створанага сябрамі культурна-асветніцкага клуба "Спадчына".

У 1983 годзе Шчамялёву было прысвоена ганаровае званне Народнага мастака БССР.

Творчасць Леаніда Шчамялёва карыстаецца шырокай вядомасцю, прызнаннем і любоўю гледачоў. Мастаку ўласціва сваё, непаўторнае бачанне свету, ён мае адметную творчую манеру, карціны яго пазнавальныя. Яны жывапісныя і адначасова поўныя лірызму, любові да жыцця, замілавання прыгажосцю. Пры ўсёй разнастайнасці сюжэтаў ягоных твораў, цэнтральнай іх тэмай з'яўляецца Беларусь, увасобленая ў самых розных вобразах і праламленнях – ці то ў партрэтах Купалы, Цёткі, Каліноўскага, Ларысы Геніюш, ці то ў родных краявідах, сюжэтных кампазіцыях.

Вось і ў размове з намі маэстра падкрэслівае важнасць асаблівага, адметнага беларускага погляду на свет, выяўлення ў творчасці нацыянальнага бачання рэчаіснасці. "Цяпер, - кажа ён, - на жаль, часта даводзіцца сустракацца, асабліва ў маладых, з безаблічнасцю, "нічыйнасцю" мастацкіх твораў. Але мы, беларусы, цікавыя ўсяму свету менавіта сваёй непаўторнасцю, тым, што ёсць толькі ў нас. Вось гэтую сваю адметнасць, непаўторнасць мы і павінны несці ў шырокі свет, прадстаўляючы ў сваіх творах нашу Бацькаўшчыну".

Такімі вось словамі маэстра і закончыў аповед пра сябе. На пытанне ж пра творчыя планы адказаў коратка: " Ніякіх асаблівых планаў. Проста жыць, бачыць прыгажосць і паказваць яе людзям у сваёй творчасці".

5 лютага, у дзень 80-годдзя народнага мастака Беларусі Леаніда Шчамялёва ў Палацы мастацтва адчынілася юбілейная выстава яго твораў, якая працавала на працягу цэлага месяца.

*Святлана Багданкевіч.*

## Пайшла з жыцця вядомая грамадская дзяячка на эміграцыі, наша славутая суайчынніца Зора Кіпель



**Яна нарадзілася ў 1927 г. у Менску. Была высокаадукаванай жанчынай: скончыла Беларускую гімназію імя Янкі Купалы (у Нямеччыне), Лювенскі ўніверсітэт у Бельгіі, Ратчэрскі ўніверсітэт у ЗША. Спадарыня Зора прысвяціла сваё жыццё даследаванню старабеларускай літаратуры, была укладальніцай і аўтаркай шэрагу навуковых выданняў. Разам з мужам Вітаўтам падрыхтавала двухтомнік "Беларускі друк на Захадзе". На вялікі жаль, яна не прычакала выхаду ў свет гэтай найбуйнейшай працы свайго жыцця.**

**Зора Кіпель – шматгадовая супрацоўніца Славянскага і Балтыйскага аддзела Нью-Ёрскай публічнай бібліятэкі. Шмат сілаў і энергіі аддала працы ў Беларускім інстытуце навукі і мастацтва. Актывістка найбуйнейшай арганізацыі на эміграцыі Беларуска-Амерыканскага Задзіночання.**

**Удалечыні ад Радзімы Зора Кіпель выгадавала дваіх дзяцей: дачку Алесю і сына Юрку – адданых беларускіх патрыётаў.**

**Спадарыня Зора падтрымлівала цесныя сувязі з ТБМ, дапамагала выжыць у няпросты час яго існавання. Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны смуткуе з прычыны заўчаснай смерці нашай знакамітай зямлячкі і выказвае глыбокае спачуванне сваякам і ўсім, хто яе ведаў.**

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Алена Анісім, Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 21. 04. 2003 г.
Наклад 2200 асобнікаў. Замова № 1138.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 458 руб., 3 мес.- 1374 руб.
*Кошт у розніцу:* 175 руб. (у Менску - 185 руб.)